**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**Установа адукацыі**
**«Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф.Скарыны»**
**Нацыянальны культурна-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны**

# ЭКАНАМІЧНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ:

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ АЛФАВІТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ДАВЕДНІК

**Гомель 2002**

**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**Установа адукацыі**
**«Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны»**
**Нацыянальны культурна-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны**

# ЭКАНАМІЧНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ:

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ АЛФАВІТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ДАВЕДНІК

**Гомель 2002**

УДК 808.1-3 (03) + 016 : 808.1 - 3
ББК 81.411 – 34.1+ 91.9 : 81.411 -34
Э35

*Рэцэнзенты:*

Кафедра беларускай мовы ГДУ імя Ф. Скарыны
(заг. кафедры Станкевіч А. А., доктар філалагічных навук, прафесар)
Сарвіраў Б. У., кандыдат эканамічных навук, дацэнт
Шчэрбін В. К., кандыдат філалагічных навук

Рэкамендавана да друку навукова-метадычным саветам ГДУ імя Ф.Скарыны

**Э35 Эканамічная тэрміналогія беларускай мовы: Бібліяграфічны алфавітна-тэматычны даведнік /Аўтар-складальнік: К.С.Усовіч. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2002. – 226 с.**

ISBN 985-439-035-7

У кнізе прадстаўлена бібліяграфія і тэматычны аналіз бібліяграфічных даведнікаў, слоўнікаў эканамічнай і блізкіх да яе тэрміналогій, зборнікаў матэрыялаў навуковых канферэнцый, індывідуальных і калектыўных манаграфій, навуковых артыкулаў з іншых кніг, часопісаў, прысвечаных усяму комплексу агульных і канкрэтных праблем фарміравання, развіцця і ўдасканалення эканамічнай і блізкіх да яе тэрміналогій усходнеславянскіх моў.

Першы ў беларускім мовазнаўстве вузкагаліновы бібліяграфічна-тэматычны даведнік прызначаецца для студэнтаў, аспірантаў, вучоных філолагаў і эканамістаў, усіх, хто цікавіцца і займаецца вывучэннем, даследаваннем і ўдасканаленнем эканамічнай і іншай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

УДК 808.1-3 (03) + 016 : 808.1 - 3
ББК 81.411 – 34.1+ 91.9 : 81.411 -34

ISBN 985-439-035-7

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

## 1. Агульныя палажэнні

Агульнавядома, што эканамічная і наогул уся навукова-тэхнічная тэрміналогія адносяцца да навуковай мовы. У сувязі з тым, што гэта тэрміналогія выкарыстоўваецца не толькі ў навуцы, не толькі з'яўляецца асноўным элементам навуковай мовы, але і ўсёй мовы, якая абслугоўвае матэрыяльныя і духоўныя адносіны людзей, то гэта тэрміналогія з'яўляецца адначасова і наогул тэрміналогіяй (лічым, што навукова-тэхнічная або навуковая тэрміналогія — недастаткова поўны, а таму і няправільны тэрмін. Тэрміналогія выкарыстоўваецца не толькі ў навуцы, не толькі ў тэхніцы, а і ва ўсёй, як мы сцвярджалі, матэрыяльна-вытворчай і нават духоўнай дзейнасці людзей. Таму самым абагульняючым тэрмінам павінен быць наступны: тэрміналогія).

У сваёй працы мы і будзем карыстацца гэтым тэрмінам, калі размова будзе ісці пра ўсю тэрміналогію ў цэлым. Ва ўсіх астатніх выпадках будзем ужываць адпаведныя рода-відавыя азначэнні.

Тэрміналогіі, вядома, уласцівы тыя ж самыя галоўныя, сутнасныя якасці і функцыі, што і агульналітаратурнай, і народна-дыялектнай лексіцы, усёй мове, — быць сродкам абазначэння і адлюстравання аб'ектыўнай рэчаіснасці ў чалавечай свядомасці, інструментам мыслення, пазнання і зносін, вытворчай, працоўнай дзейнасці людзей. Гэта «не асобыя словы, а толькі словы «ў асобай функцыі»[1]. Яны выконваюць тыя ж функцыі камунікацыі, што і звычайная лексіка і ўся мова, г. зн. функцыі «паведамлення, сувязі і зносін людзей адзін з адным, перадачы зместу думак слухачам, субяседнікам, чытачам»[2]. Любы тэрмін, у тым ліку і навуковы, — гэта «слова ці сукупнасць слоў, якімі абазначаецца ў межах пэўнай навукі (ці іншай сферы дзейнасці людзей. - **К.У**) адзін-адзіны прадмет (альбо адзіная сукупнасць прадметаў), даследуемы дадзенай навукай»[3], ці выкарыстоўваемы ў іншай сферы дзейнасці.

У сувязі з тым, што агульналітаратурная і навуковая мова ў навуцы, у тым ліку і эканамічнай, з'яўляецца адной з самых важных умоў, інструментаў яе развіцця, што яна павінна «забяспечыць яснасць, дакладнасць, недвухсэнсоўнасць, лагічнасць і доказнасць выкладу, уз-

---

[1] Михайлишин Б.П. Природа, функции и стилевые характеристики терминов-аббревиатур (на материале восточнославянских языков) // Беларуская мова ў другой палове XX ст.: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск. 22-24 кастрычніка 1997 г.) - Мінск: Белдзяржуніверсітэт. НАНБ, 1998. - С.137.

[2] Кондаков Н.И. Логический словарь-справочник / Второе, исправленное и дополн. изд. - М.:Наука, 1975. - С. 253.

[3] Там жа. - С.376.

наўляльнасць выкладаемых эксперыментальных навуковых вынікаў іншымі вучонымі, паўнату інфармацыі і г.д.»[1], навуковая мова і канкрэтна тэрміналогія здаўна прыцягваюць інтарэс усё большай колькасці даследчыкаў, якія імкнуцца ўнесці свой уклад у развіццё і ўдасканаленне мовы і тэрміналогіі з тым, каб апошнія паўней і апаратыўней абслугоўвалі навукова-тэхнічны і эканамічны прагрэс народаў. Мова ж многіх іншых, у тым ліку і важнейшых сфер дзейнасці людзей, дасюль яшчэ не стала аб'ектам даследавання мовазнаўцаў і вучоных іншых напрамкаў (у першую чаргу гэта датычыць мовы вытворча-эканамічнай дзейнасці, фізічнай, хімічнай, матэматычнай навук, астраноміі, біялогіі…).

Імкнучыся ў даступнай нам ступені таксама павялічыць ролю навуковай мовы і эканамічнай тэрміналогіі ў развіцці матэрыяльнай вытворчасці і эканамічнай навукі, мы, у сваю чаргу, даследавалі шматлікія бібліяграфічныя даведнікі, зборнікі навуковых канферэнцый, артыкулаў, калектыўныя і індывідуальныя манаграфіі і выбралі эканамічныя і слоўнікі сумежных з эканомікай навук (143 назвы), манаграфіі, зборнікі і артыкулы на гэтую ж тэму (1875 адзінак), якія апублікаваны ў рускім, украінскім і беларускім мовазнаўстве. У сувязі з большай даступнасцю беларускіх публікацый яны вывучаны ў азначаным плане найбольш поўна. Гэтая праца выканана намі ў разліку яшчэ і на тое, каб стварыць беларускім і ўсім усходнеславянскім мовазнаўцам і эканамістам, якія займаюцца навуковым даследаваннем, развіццём і ўдасканаленнем эканамічнай тэрміналогіі, дадатковыя зручнасці ў гэтай працы, прадаставіць у іх распараджэнне як мага больш гатовых даследаванняў, зэканоміць іх час і інтэлектуальную энергію, якія марнуюцца на пошукі навуковай літаратуры, для больш якаснай і аб'ёмнай даследчыцкай і практычнай работы.

Нашы матэрыялы паказалі, што, нягледзячы на незвычайна вялікую важнасць і ролю навукова-тэхнічнай тэрміналогіі ў навуковай і матэрыяльна-вытворчай дзейнасці людзей, мовазнаўства і эканамічная навука ўдзяляюць ёй незаслужана малую ўвагу. Асабліва моцна датычыць гэта беларускай эканамічнай навукі. Адзіным укладам яе ў развіццё эканамічнай тэрміналогіі беларускай мовы з'яўляецца выданне некалькіх слоўнікаў (тлумачальных і перакладных. Глядзіце пазіцыі ў IV раздзеле даведніка: 12, 15, 20, 21, 31-32, 35-36, 38, 40, 44, 46, 49-51, 56, 58, 61, 66-67, 73, 81, 87, 97).

У беларускім мовазнаўстве з агульнатэрміналагічных і сумежных з эканомікай даследаванняў (юрыдычнай, грамадска-палітычнай, сацыяльна-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай тэрміналогій) заўважана аўтарам каля чатырохсот пяцідзесяці прац, сярод якіх па чыста эканамічнай

[1] Денисов П.Н. Научный стиль // Русский язык: Энциклопедия / Изд. 2-е, перераб. и доп.; Гл. ред. Ю.Н. Караулов. – М.: Большая российская энциклопедия; Издательский дом «Дрофа», 1997. – С. 260.

тэрміналогіі налічваецца каля ста пяцідзесяці даследаванняў. Для параўнання варта прыгадаць, што ў рускім мовазнаўстве аналагічных прац заўважана аўтарам больш паўтары тысячы. Тут апублікавана па рускай навукова-тэхнічнай (агульнатэрміналагічнага плану) і чыста эканамічнай тэрміналогіі 1211 кніг і артыкулаў (у асноўным выдадзеных да 1990 г., паколькі пасля гэтага года навуковыя працы з Расіі даходзяць да Беларусі далёка не ўсе).

## 2. Тэматыка тэрміналагічных і тэрмінаграфічных прац

Наяўныя мовазнаўчыя працы па эканамічнай, агульнанавуковай і сумежнай з эканамічнай тэрміналогіях далі магчымасць вылучыць 190 важнейшых тэм, сярод якіх у першую чаргу варта назваць наступныя: агульныя праблемы тэрмінасістэм (100 прац), гісторыя беларускіх і іншамоўных тэрміналогій і тэрмінаў (244), інтэрнацыяналізацыя ў тэрміналогіі (89), сумежныя з эканамічнай тэрміналогіі (240), лексіка і тэрміналогія (100), лексікаграфія і тэрмінаграфія (255), методыка і метадалогія тэрмінатворчасці (60), нармалізацыя і нарматыўнасць тэрміналогіі (64), развіццё тэрміналогіі і мовы (80), распрацоўка навукова-тэхнічнай тэрміналогіі (83), семантыка мовы, лексікі ў тэрміналогіі (204), сістэмнасць мовы і тэрміналогіі, іх сістэмныя ўзаемаадносіны (61), слова- і тэрмінаўтварэнне (130), стандартызацыя (53), структура тэрміналогіі (62), сумежныя (з эканамічнай) сістэмы і паняцці (111), сутнасць і функцыі тэрмінаў і тэрмінасістэм (85), тэорыі, тэарэтычныя праблемы і падыходы да развіцця мовы і тэрміналогіі, іх каштоўнасць (61), удасканаленне, сістэматызацыя і ўпарадкаванне тэрміналогіі (70), утварэнне тэрмінаў і тэрміналогій (108), фарміраванне і ўдасканаленне тэрміналогіі (89).

Шмат каштоўных праблем тэрміналогіі неапраўдана мала закранаецца мовазнаўцамі: абрэвіяцыя (10), аб'ектыўнапрыродная і грамадская абумоўленасць мовы і тэрміналогіі (4), аб'яднанне намаганняў тэрмінолагаў свету (1), агульнанавуковая тэрміналогія (8), аманімія (6), антанімія (2), асаблівасці і спецыфіка тэрмінаў, іх развіцця і фарміравання (32), аўтаматызацыя ў лінгвістычнай тэрмінатворчасці (24), вызначальная роля аб'ектыўнай рэчаіснасці і грамадства ў развіцці агульналітаратурнай мовы, навуковай мовы, тэрміналогіі (1), вытворнасць тэрмінаў (2), дзеепрыметнікі ў навукова-тэхнічнай мове і тэрміналогіі (24), дакладнасць, канкрэтнасць тэрміна (5), заканамернасці і законы ў мове і тэрміналогіі (21), абагульненне замежнага вопыту тэрмінатворчасці (18), ідэальнае ў мове і ідэальная мова (3), калькаванне ў тэрміналогіі (10), кароткія формы і варыянты тэрмінаў (8), кіраванне і каардынацыя тэрмінатворчасці (21), міжнароднае значэнне тэрміналогіі і тэрмінатворчасці (17), наватарства ў тэрмінатворчасці і яго суадносіны з традыцыяй (10), навукова-тэхнічны прагрэс і мова, тэрміналогія (11), напрамкі і тэндэнцыі развіцця

тэрміналогіі (31), новыя тэрміны і новае ў тэрмінах (4), перадавы вопыт тэрмінатворчасці і абмен ім (18), планамернасць, мэтанакіраванасць і свядомы характар фарміравання і ўдасканалення тэрміналогіі (10), псіхалогія, псіхалінгвістыка і тэрміналогія (10), роля агульналітаратурнай мовы і лексікі ў развіцці навукова-тэхнічнай мовы і тэрміналогіі (7), роля і месца навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў развіцці навукова-тэхнічнай тэрміналогіі і роля апошняй у развіцці мовы (13), роля і месца тэрміналогіі і мовы ў жыцці і развіцці грамадства (16), састаўныя тэрміны (14), скарачэнне тэрмінаў і яго праблемы (8), складаныя і складанаскарочаныя тэрміны (15), узрастанне ролі навукова-тэхнічнай тэрміналогіі і мовы (3), уніфікацыя і універсаліі ў тэрміналогіі (16), эканомія і экспрэсіўнасць у тэрміналогіі і іх віды (45).

Зусім не выяўлена даследаванняў па праблемах супрацоўніцтва лінгвістаў і навукова-тэхнічных спецыялістаў па фарміраванні і ўдасканаленні тэрміналогій, стварэнні гарантаванай дзяржавай мэтанакіраванай праграмы, вызначэння важнейшых і першачарговых задач у тэарэтычным даследаванні і практычным ажыццяўленні навуковых праграм.

Самым прыкрым трэба прызнаць, што дасюль у нашых абагульняючых працах не даецца комплекснай тэматычнай класіфікацыі ўсёй тэрміналогіі. Менавіта па гэтай прычыне адны і тыя ж семантычныя пласты тэрміналогіі называюцца па-рознаму, кожны з нешматлікіх даследчыкаў, якія гэтым займаюцца, вылучае ізаляваную колькасць тэматычных груп, часта робіць гэта на падставе суб'ектыўных поглядаў. Няма агульнапрызнанага крытэрыя і па той жа прычыне, што не рабіліся спробы лагічна-абагульняючага аналізу ўсёй сукупнасці тэрміналогіі. Такога тыпу вылучана толькі тэрміналогія палітычная (1083, 1317 і 1358 пазіцыі пятага раздзела), грамадазнаўчая (131), грамадска-палітычная (206, 266, 361, 415-416, 466, 620, 679-680, 750, 771-773, 1456, 1520).

З агульнаэканамічнай тэрміналогіі вылучаны палітэканамічная (109), бухгалтарская (133, 869), эканамічная (204-205, 351-354, 356-358, 470, 557, 565, 1072, 1165, 1195, 1228, 1520, 1523-1532, 1570, 1693), сацыяльна-эканамічная (208, 353-354, 414, 566-568, 750, 1195, 1309), гандлёвая (451-453), крэдытна-фінансавая (1208-1209). Як самастойныя, не ўваходзячыя ў эканамічную тэрміналогію, падаюцца водна-транспартная (С.М. Аніськова), жывёлагадоўчая (В.В. Шур), сельскагаспадарчая (134, Н.М. Граковіч, Э.П. Груцо, У.В. Люшчык), нафта-газаздабываючая (У.В. Люшчык), тэхніка-вытворчая (А.Ф. Гаранаў), папераробчая (С. Запрудскі), аўтамабілебудаўнічая (В.Г. Захарава), аўтамабільнага транспарту (Л.М. Мінакова), машынабудаўнічая (В.Г. Захарава), аграрна-тэхнічная (Т. М. Капусціч), прамыслова-тэхнічная (Т.В.Капяйко), прамыслова-вытворчая (І. Кузменка, С. Паўлюк, В. Лупачоў), вытворча-прафесійная (У.Д. Сухан,

І.В. Шадурскі), гаспадарча-зямельная (Л.А. Кацапаў), лесагаспадарчая (Р.В. Місюк), лясная рамесніцкая (У.Д. Кніга), чыгуначнага транспарту (Л.Л. Плыгаўка), будаўнічая і домабудаўнічая (У.А. Сарока), дзелавая (С.Серада), землеўладкавальная (Я. Стапановіч, В. Ф. Дудко, Г. В. Дудко, О.П. Зяньковіч), транспартных сродкаў (У.Д. Старычонак), тэхнічная (1517, 1518), земляробчая і раслінаводчая (Г. Усціновіч, С.С. Барсукоў, А.С. Лаўшук, М.В. Машчанка), садова-агародніцкая (І.В. Шадурскі) тэрміналогіі.

Усе яны, па-першае, абазначаюць і адлюстроўваюць у нашай свядомасці працоўныя ўзаемаадносіны, працоўную дзейнасць людзей па стварэнню жыццёва неабходных матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, што ў цэлым называецца эканомікай. Па-другое, як ужо адзначана, з назваў гэтых тэматычных груп вынікае, што тут не відаць строгай сістэмы і не вызначаецца адзіны крытэрый, яны вылучаны з розных пунктаў погляду.

Вядома, што грунтоўнасць і ўсебаковасць даследавання якой-небудзь тэмы – гэта вывучанасць і вырашанасць усяго комплексу праблем гэтай тэмы, якіх велізарнае мноства. Каб іх вырашыць, патрэбна аб'яднаць намаганні ўсіх мовазнаўцаў нашай рэспублікі і выдзеліць для гэтага не адзін год, калі не дзесятак. А гэта, безумоўна, немагчыма таму, што ўсе мовазнаўцы не могуць заняцца адной-адзінай праблемай. Трэба пастутова рашаць увесь комплекс праблем беларускай мовы, ніводная з якіх не можа чакаць, пакуль да яе прыйдзе чарга.

Большасці навуковых даследаванняў беларускага мовазнаўства па навукова-тэхнічнай, асабліва эканамічнай тэрміналогіі ўласцівы прыкладны, несістэматычны і нефундаментальны характар. Многія даследчыкі звяртаюцца да праблемы тэрміналогіі як бы наскокам, выхопліваюць вельмі дробныя і "не робячыя надвор'я" для тэрміналогіі пытанні. Да таго ж даследаванне гэтых дробных праблем не даводзіцца да канца, не мае працягу.Так, са 190 даследчыкаў толькі 20-25 можна назваць тэрмінолагамі, якія навукова-тэрміналагічнай дзейнасцю займаюцца ці займаліся стала і на поўным сур'ёзе. Да іх у першую чаргу належыць аднесці Л. А. Антанюк, А. І. Падлужнага, В. П. Краснея, В. К. Шчэрбіна, А. М. Булыку, Н. І. Гілевіч, В. Г. Захараву, Т. М. Казачэнка, Т. В. Капяйко, А. І. Кісялеўскага, Г. І. Кулеш, У. В. Люшціка, М. Р. Прыгодзіча, А. І. Равуцкага, А. А. Станкевіч, П. У. Сцяцко, І. В. Шадурскага, Я. Х. Юрэвіч, А. І. Яновіч.

Праўда, сярод большасці даследчыкаў знаходзяцца і тыя, якія зусім нядаўна ступілі на гэты цяжкі і не ўсыпаны кветкамі шлях. Менавіта ім давядзецца вынесці самую вялікую нагрузку, бо тэрмінатворчая і даследчыцкая праца па-сапраўднаму яшчэ, на нашу думку, не пачалася галоўным чынам у сувязі з тым, што беларускамоўная навуковая тэрміналогія практычным жыццём і большасцю народа амаль не запатрабавана.

Прыемна ўсведамляць, што вялікі атрад тэрмінолагаў-даследчыкаў

падабраўся ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны. Гэта А.А. Станкевіч, загадчык кафедры беларускай мовы, І. М. Акулаў, С. М. Аніськова, А. М. Воінава, В.А. Ляшчынская, Л. М. Мінакова, А. М. Палуян, Д. Д. Паўлавец, В. У. Пугачова, В. Ф. Сеніна і аўтар гэтых радкоў..

У заўважаных і вывучаных аўтарам тэрміналагічных даследаваннях беларускага мовазнаўства найбольш даследавана правазнаўчая, грамадска-палітычная, лінгвістычная, батанічная тэрміналогіі. Так, правазнаўчую тэрміналогію даследавалі Т. Алёхіна («Ключавыя тэрміны права ў прадмовах Льва Сапегі да Статута Вялікага княства літоўскага»), Г.Ф. Вештарт («Дзеепрыметнікі ў мове законаў», «Лексіка-семантычныя асаблівасці мовы законаў»), В.Ф. Шалькевіч («Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі»), М. Грэдынгер (Пераклад правазнаўчых тэрмінаў з адной мовы на другую), М. Гуткоўскі («Беларуская праўная тэрміналогія», 1927 г.), У.М. Лазоўскі («Прававая тэрміналогія ў старабеларускай мове»), С.А. Падокшын і С.Ф. Сокал («Палітычная і прававая думка Беларусі XV-XVII стст.)..

Грамадска-палітычную тэрміналогію даследавалі А.М. Булыка ("Грамадска-палітычная лексіка лацінскага паходжання ў старабеларускай мове"), С.В. Віннік ("Некаторыя пытанні супастаўляльнага даследавання грамадска-палітычнай лексікі..."), В.Ф. Шалькевіч (вышэй названы твор), М.В. Дабрыян ("Словаўтваральная характарыстыка беларускай грамадска-палітычнай лексікі XIX ст.", "Шляхі фарміравання беларускай грамадска-палітычнай лексікі XIX ст."), А.А. Дзячэня ("Катэгарыяльна-семантычныя асаблівасці грамадска-палітычнай тэрміналогіі"), І.І. Карпуць ("Сучасная грамадска-палітычная тэрміналогія беларускай мовы і нацыянальнае адраджэнне"), Н.П. Колас ("Складаныя тэрміны ў беларускай грамадска-палітычнай тэрміналогіі", "Суфіксальнае словаўтварэнне грамадска-палітычных тэрмінаў..."), В.Ф. Крыўчык ("Лексіка беларускіх пісьмовых помнікаў XVI ст., адлюстроўваючая сацыяльна-эканамічнае і грамадска-палітычнае становішча насельніцтва"). Выдадзены і грунтоўны слоўнік гэтай тэрміналогіі пад рэд. М.В. Бірылы і М.Р. Судніка (глядзіце пазіцыю 70 ў 4-м раздзеле).

Тут пастаўлены і часткова вырашаны наступныя пытанні грамадска-палітычнай тэрміналогіі: вылучана і ахарактарызавана толькі *лексіка* грэка-лацінскага паходжання і не ўсёй, а толькі старабеларускай мовы, толькі некаторыя пытанні супастаўляльнага даследавання грамадска-палітычнай *лексікі* , яе роля і развіццё ў гісторыі палітычнай і прававой думкі Беларусі, зроблена толькі словаўтваральная і толькі характарыстыка, а не поўнае даследаванне не ўсёй тэрміналогіі і не ўсяго перыяду, а толькі лексікі XIX стагоддзя; шляхі яе фарміравання толькі гэтага перыяду і толькі катэгарыяльна-семантычныя асаблівасці грамадска-палітычнай тэрміналогіі, канкрэтны масіў сучаснай тэрміналогіі гэтага тыпу толькі ў сувязі з нацыянальным адраджэннем, і пры тым такім, як яго разумее са-

ма аўтар; разгледжаны асобны ракурс некаторай часткі складаных тэрмінаў, іх толькі суфіксальнае словаўтварэнне, таксама толькі адзін аспект *лексікі* гэтага тыпу ў беларускіх пісьмовых помніках XVI ст., а не ўсе аспекты не ўсёй грамадска-палітычнай тэрміналогіі і не ўсяго перыяду развіцця беларускай мовы.

З гэтага відаць, што часткова вырашаны 10-20 аспектаў некаторай часткі грамадска-палітычнай тэрміналогіі. А іх жа непараўнальна больш.

Лінгвістычная тэрміналогія не толькі больш-менш поўна даследавана, але і выдадзена ў слоўніках (глядзіце: Суяцко П.У. Родная мова – мова навукі [Праблемы нармавання лінгвістычнай тэрміналогіі"], Шкраба І.Р. Моваэнаўчыя тэрміны ў аспекце сінанімічных адносін. Гвоздович Г.А. Истоки, структура и функционирование грамматических терминов русского и белорусского языков). Батанічная тэрміналогія даследавалася А.І. Кісялеўскім, У. Кашчанка, А.М. Лапкоўскай і інш.

Толькі пастаўлены і часткова вырашаны асобныя праблемы наступных відаў неэканамічнай тэрміналогіі: ландшафтнай тэрміналогіі (пазіцыя 603 пятага раздзела), прыродазнаўчай (605), публіцыстычнай (877), урбанімічнай (913), медыцынскай (1084), анатамічнай (1086), фізічнай (1152), інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі (1290-1291), канцылярскай (1319), метралагічнай (1356, 1692, 1695), землеўладкавальнай (1409), кнігазнаўчай (195), сацыялагічнай (1685), лагічнай (129), палітычнай (1083, 1317, 1358), грамадазнаўчай (131), культуразнаўчай, тэмпаральнай (484). Дарэчы, і ў дадзеным тэматычным падзеле не прасочваецца яго адзіны крытэрый, агульны пункт погляду.

А ў іншых тэматычных пластах і такое кола праблем не даследавана.

Усё гэта сказана не ў якасці папроку названым даследчыкам, для чаго няма ніякіх падстаў (іх даследаванні наадварот уваходзяць у залаты фонд беларускага мовазнаўства), а толькі каб наглядна прадэманстраваць, які велізарны аб'ём работы ўсім беларускім мовазнаўцам трэба выканаць, каб грунтоўна вывучыць і даследаваць толькі адну грамадска-палітычную тэрміналогію. Між тым як тэрміналогія складаецца з мноства тэматычных груп. А беларуская мова поруч з тэрмінамі ўключае і іншыя разрады слоў, складаецца з іншых элементаў.

Некаторая ступень грунтоўнасці, пра якую гаварылася крыху вышэй, тлумачыцца не ўсебаковасцю даследавання названых там відаў тэрміналогій, а параўнальна большай колькасцю навуковых артыкулаў, даследаваных аспектаў. Грунтоўнасці і паўнаты даследаванняў у прамым разуменні гэтых слоў і там няма. Узяць хоць бы самую характэрную ва ўсіх гэтых адносінах грамадска-палітычную тэрміналогію. Там прадстаўлена 8 аўтараў, 10 артыкулаў і 1 слоўнік. Апошні сапраўды паказвае грунтоўны падыход мовазнаўцаў да грамадска-палітычнай

тэрміналогіі. Але гэта толькі вычляненне яе з усёй тэрміналогіі, гэта толькі яе, так сказаць, інвентарызацыя.

У рускім, а часткова і ва ўкраінскім мовазнаўстве заўважаны яшчэ хоць адзінкавыя, а ў некаторых выпадках і шматлікія працы па такіх відах тэрміналогіі, як агульная (пазіцыя 115 у 5-м раздзеле), анатамічная (1086), астранамічная (790), бібліятэчная (630, 1441), біялагічная (349) і біягенацэналагічная (1507), ваенная (181) і ваенна-статутная (814), вылічальнай тэхнікі (364), гістарычная (498), грамадская (682), касмічная (942, 1128), кінематаграфічная (810), лінгвакраіназнаўчая (712), масавакамунікацыйная (1137), мастацтвазнаўчая (51, 1332), матэматычнай логікі (1278, 1572), медыка-біялагічнай інфармацыі (1643), медыцынская (613, 714, 726, 977, 1138), публіцыстычная (164, 1251, 1253), радыё і кіно (561), радыёфізічная (182), сацыяльнай лінгвістыкі (923), тэорыі сістэм (38), філасофская (1046, 1601, 1603) і этнаграфічная (123).

У беларускім мовазнаўстве, як і ў рускім, даследуюцца па якой-небудзь адной, дзвюх-трох і больш праблемах наступныя тэматычныя групы: арыфметычная (162)[1], батанічная (636, 639, 803-808), грамадазнаўчая (пазіцыя 131 у V і 6 у IV раздзелах), грамадска-палітычная (**V**: 206, 266, 415-416, 466, 620, 680, 750, 771-773, 1511, 1520; **IV**: 33, 70), захаванне культурнага набытку (362), інфарматыкі (1290-1291), кнігазнаўчая (195), культуралагічная (959), лагічная (філасофская) (**V**: 129, **IV**: 11), ландшафтная (538), матэматычная (**V**: 219, 618, 881; **IV**: 38), медыцынскай вірусалогіі (1084), мовазнаўчая (лінгвістычная, граматычная: 217, 333-334, 1640), палітычная (361, 1083, 1317), паліталагічная (1358), правазнаўчая (юрыдычная) (**V**: 37, 130, 260-261, 331, 361, 856, 1083; **IV**: 105), прыродазнаўчая (605), сацыяльная (414, 566-568, 876), фізічная (**V**: 135, 1152; **IV**: 10, 38) і тэмпаральная (484).

У назвах вялікай колькасці навуковых прац не адлюстравана тэматычная група эканамічнай тэрміналогіі. У іх тэрміналогія называецца некалькімі тэрмінамі: навукова-тэхнічная, навуковая тэрміналогія, тэхнічная. І такія працы складаюць пераважную большасць. З пералічаных тэматычных груп неэканамічнай тэрміналогіі відаць, што іх падзел таксама адбываецца на падставе сфер дзейнасці чалавецтва, якія яны абазначаюць. Але часта гэтыя сферы не маюць рэзкіх граніц размежавання, таму і тэмы як бы непрыкметна пераходзяць адна ў другую, як бы маюць сваёй перадумовай іншыя. Так, у юрыдычную ўваходзіць тэрміналогія і практыкі, і навукі. Тое ж можна сказаць і пра многія іншыя, напрыклад, пра этнаграфічную, радыёфізічную, медыцынскую, культуралагічную, кнігазнаўчую, ваенную і іншыя. Ёсць як бы чыста

[1] Прыводзяцца пазіцыі толькі беларускага мовазнаўства.

навуковыя тэмы – анатамічная тэрміналогія, гістарычная, лагічная (філасофская), лінгвістычная (мовазнаўчая, граматычная), матэматычная, прыродазнаўчая, тэорыі сістэм, фізічная.

Але ёсць тэмы, вылучаныя як бы не з поўнай доляй абагульнення, абстракцыі, а вельмі канкрэтна, дробна: *назвы раслін*, *назвы жывёл*; нават з некаторым адценнем штучнасці, надуманасці: *захавання культурнага набытку* (362), *навукова-тэрміналагічная* (227).

Некаторыя з тэм вылучаны не на падставе сфер дзейнасці чалавека, а як бы зыходзячы з катэгорый матэрыі: часавая тэрміналогія (484), рэчыўная (1615).

Асноўную частку ўсіх тэматычных груп (прыкладна 130) можна аднесці да эканамічнай прама ці ўскосна. З усёй колькасці груп названай катэгорыі прама эканамічныя групы тэрмінаў складаюць прыкладна семдзесят працэнтаў, да ўскосна эканамічных адносяцца астатнія 30 %. Апошняя доля груп – самастойныя тэматычныя пласты, што так ці інакш абазначаюць паняцці чалавечай дзейнасці, звязаныя з эканомікай або заснаваныя на ёй. Гэта тэрміналогія ваенная (181), вылічальнай тэхнікі (364), геаграфічная (663, 790, 1176, 1197, 1505), геалагічная (155, 795, 1087), гістарычная (498), грамадазнаўчая (**V**: 131; **IV**: 6), грамадска-палітычная (47-я пазіцыя пятага раздзела і 3 – чацвёртага), інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі (17, 836, 1181, 1245, 1290-1291, 1400, 1566), касмічная (942, 1128), кінематаграфічная (810), культуралагічная (959), ландшафтная (538), ландшафтнай экалогіі (геаэкалогіі) (1507), масавакамунікацыйная (1137), матэматычная (**V**: 219, 618, 790, 881, 1621; **IV**: 38), медыцынская (613, 714, 726, 977, 1198), навукова-тэхнічная (60 пазіцый пятага раздзела), палітычная (192, 361, 1083, 1318), паліталагічная (**V**: 1358; **IV**: 31)[1], правазнаўчая (юрыдычная) (**V**: 37, 130, 260-261, 331, 361, 412, 684, 801, 856, 958, 1063, 1083, 1116, 1282; **IV**: 105), прыродазнаўчая (605), прыродазнаўча-навуковая (1018, 1174)[1], радыёфізічная (182), сацыяльна-палітычная (28), сацыяльная (284, 414, 566-568, 876, 1512, 1514-1515), фізічная (**V**: 135, 789, 812, 1152; **IV**: 10, 38), філасофская (1046, 1601, 1603), этнаграфічная (123).

Як ужо адзначалася, няма адзінага крытэрыя, на падставе якога выдзяляюцца тэматычныя падгрупы эканамічнай тэрміналогіі. Таму назвы іх знаходзяцца як бы ў хаатычным стане.

Тым не менш нам, як здаецца, іх удалося прывесці ў больш-менш здавальняючую сістэму. Самай шматлікай з'яўляецца першая група, якую можна было б назваць «Віды вытворчасці». Сярод іх вылучаецца тэрміналогія сельскагаспадарчай вытворчасці, да якой адносяцца такія названыя аўтарамі адпаведных артыкулаў ці слоўнікаў тэрміналогіі, як аг-

---

[1] Апошнія дзве, вядома, -- розныя, хоць і блізкія, назвы адной і той жа тэрміналогіі.

рапрамысловая (IV: 50), аграрнай эканомікі (IV: 51), аграрна-тэхнічная (V: 603), буракацукровая (520), ганчарная (951), глебазнаўчая (IV: 8), жывёлагадоўчая (1660), землеўладкавальная (IV: 44; V: 1409), землеробчая (IV: 29; V: 1533, 1605, 1607), назвы землеўладанняў (1606), лесаводчая (44), лесагаспадарчая (942, 1267), назвы гаспадарчых зямель (626), назвы гатункаў бульбы (686), пчалаводчая (678), раслінаводчая (29), садова-агародніцкая (1608), сельскагаспадарчая (IV: 9, 64, 88; V: 45, 134, 215, 401, 554, 650, 872, 1047); тэрміналогія прамысловай вытворчасці: аўтамабілебудаўнічая (504, 508, 510, 513), будаўнічая (900, 1164, 1302, 1401), вырабу металаў (537), вытворчая (IV: 22; V: 438, 1390, 1567), горнай справы (524-525), горнаметалургічная (955), эканомікі вытворчасці (IV: 101), ліцейнай вытворчасці (121), машынабудаўнічая (505-507, 509, 511-512, 759), машынарамонтнай вытворчасці (783), медыкатэхнічнай (758), металургічнай (698-699), нафта-газаздабываючай вытворчасці (IV: 54; V: 265, 873), папераробчая (500), прамысловая (226, 318, 778), прамысловай вытворчасці (768), ракетнай тэхнікі і касманаўтыкі (270), тэкстыльная (382, 540, 1141-1145), фабрычная (215), хімічная (700, 1263), шахцёрская (523), электратэхнічная (1688). Як бачым, прамысловая тэрміналогія ўтрымлівае агульна-прамысловыя тэрміны (вытворчая, прамысловай вытворчасці, прамысловая, эканомікі вытворчасці) і правільна вылучаныя ў адпаведнасці з відамі прамысловасці, хоць і маючыя па некалькі назваў адной тэмы: вытворчасці металаў, горнаметалургічная, ліцейнай вытворчасці, металургічная; машынабудаўнічая, машынарамонтнай вытворчасці; медыка-тэхнічная; нафтагазаздабываючая; папераробчая; ракетнай тэхнікі і касманаўтыкі; тэкстыльная; хімічная, шахцёрская; горнай справы; электратэхнічная і адну назву не па віду апрацоўваемай ці выпускаемай прадукцыі, а па тыпу прадпрыемства: фабрычная; транспартная тэрміналогія: аўтамабілетранспартная (927-939), аўтамабільная (960), транспартная (904, 1412), чыгуначнага транспарту (1169), воднага транспарту (52-60); 2) тэрміналогія перыяду, які папярэднічаў прамысловасці, перадпрамысловая: народнага ткацтва (1168), народных промыслаў (317), плытагонная (854), прадзення (755), рамесна-прамысловая (1498); цяслярская (402); тэрміналогія, якую можна толькі ўмоўна аднесці да найменняў відаў вытворчасці: дзелавая (V: 896, 1170, 1319; IV: 43, 45, 76, 107), маркетынгавая (IV: 13, 55-57), прадпрымальніцкая (IV: 71, 103, 108), спажывецкай кааперацыі (IV: 67), спецыфічна-вытворчая (1024).

Трэцяй вялікай групай тэрміналогіі з'яўляюцца найменні відаў, спосабаў і прыёмаў кіравання эканамічнай вытворчасцю. Яны ўмоўна падзяляюцца намі на дзве падгрупы: а) агульная арганізацыйна-вытворчая тэрміналогія (IV: 101; V: 280), арганізацыя і кіраванне вытворчасцю (IV: 21, 80-81), кіраванне ў спажывецкай кааперацыі (IV: 67), кібернетычная

(IV: 67; V: 1130), кіраванне (IV: 67, 98); б) тры групы прыёмаў, метадаў ў тыпаў кіравання эканомікай: 1) гандлёва-рыначны механізм: гандлёва-эканамічная тэрміналогія (IV: 66; V: 95), гандлёвая (IV: 18, 30, 97, 109; V: 451-453, 1645), знешнегандлёвай і знешнеэканамічнай (IV: 15, 41-42, 55, 69), камерцыйная (IV: 14, 35, 37, 71; V: 220-221), рыначнай эканомікі (IV: 34, 47, 71-73, 83-84, 86); 2) фінансава-крэдытны: банкаўская тэрміналогія (IV: 12), валютна-крэдытная (IV: 19, 99), валютна-фінансавая (IV: 58), валютная (IV: 2-4, 18-19, 59, 94; V: 557, 572, 1286-1287, 1530, 1589), фінансава-крэдытная (IV: 100), крэдытна-фінансавая (1208), падаткаў і пошлін (1693, 1695). Як відаць з назваў тэм, тут таксама няма закончанай стройнай сістэмы з-за адсутнасці адзінага крытэрыя аналізу; 3) розныя іншыя віды, прыёмы, метады і сродкі кіравання: бухгалтарская тэрміналогія (IV: 34; V: 133, 869), бухгалтарскага ўліку і аўдыту (IV: 2, 4, 8), матэматыка-эканамічная (224) , і тут жа: эканоміка-матэматычная (IV: 52-53; V: 906), метралагічных сродкаў (IV: 75; V: 1692), метрычных адзінак (1356), правазнаўча-эканамічная (IV: 5, 77-79, 82; V: 1320), юрыдычна-эканамічных метадаў: міжнароднага паветранага права (IV: 77), міжнароднага марскога права (IV: 78), міжнароднага права (IV: 79) ; інфармацыйна-статыстычных метадаў: сацыяльна-эканамічнай статыстыкі (IV: 91), статыстычная (IV: 95), эканамічнай інфарматыкі (IV: 25, 28; V: 1228). Як бачым, многія з падгруп падзяляюцца на яшчэ меншыя падгрупы.

Астатнія 8 асноўных груп эканамічнай тэрміналогіі складаюцца з малой колькасці найменняў, таму на падгрупы яны не падзяляюцца намі.

4. Агульна-эканамічная тэрміналогія: палітэканамічная (IV: 102; V: 109, 318, 1089, 1100, 1102-1107, 1110, 1113-1114, 1124), эканамічная (IV: 3-4, 20, 23-24, 26-27, 32, 40, 46, 48-49, 60-62, 74, 89, 90, 96, 104; V: 351-358, 470, 717, 871, 1072, 1088, 1094-1095, 1097-1098, 1109, 1111-1112, 1115, 1132, 1165, 1326 і інш.), эканамічнай тэорыі (IV: 87).

5. Тэхнічны аспект эканамічнай вытворчасці: вытворча-тэхнічная (40, 225, 433), прамыслова-тэхнічная (605-606), тэхніка-вытворчая (314), тэхнічная (IV: 38; V: 42, 234, 246, 257, 269, 350, 575, 710, 786, 1518, 1541), тэхнічнай эстэтыкі (485);

6. Грамадскі аспект эканомікі: грамадска-эканамічная тэрміналогія (IV: 63; V: 318, 514, 1489), сацыяльна-эканамічная (208, 292, 294, 750, 1025, 1090, 1096, 1099, 1195, 1266, 1335, 1528-1529).

7. Тэрытарыяльны аспект: сацыяльна-эканамічнай геаграфіі (IV: 1, 16-17; V: 1049), эканамічнай геграфіі (1070, 1359), эканоміка-геаграфічная (30, 701).

8. Эканамічнае справаводства: тэрміналогія дакументацыі (17), канцылярская (207), каштоўных папер і дакументаў (1209), справаводчая (IV: 34. 93).

9. Прадметы і сродкі вытворчасці: назвы гатункаў бульбы (686), лясной рамесніцкай сыравіны (643), маёмаснай сферы (565), назвы жывёл (522), раслін (1614), прылад вытворчасці (612), тавразнаўчая (IV: 36; V: 571, 1612).

10. Фізічныя асобы па прафесіі : імёны асоб (434, 1637), назвы асоб па прафесіі (509, 965-967, 969, 1635, 1638), назвы прафесій (1632).

11. Тэрміналогія працэсаў і дзеянняў: імёны дзеяння (36), катэгорыі працэсаў (587).

Тут прадстаўлены, безумоўна, далёка не ўсе не толькі канкрэтныя, але і самыя агульныя тэматычныя групы эканамічнай тэрміналогіі.

Тэрміналогія, як і ўся лексіка, можа падзяляцца на тэматычныя групы, зыходзячы з розных крытэрыяў. Да гэтых крытэрыяў можна аднесці: асноўныя формы існавання матэрыі (прадметы і з'явы, абазначаючыя прасторавую і часавую катэгорыі матэрыі, крытэрый 1-га ўзроўню), складаемыя матэрыі (прадметы і дзеянні, працэсы і з'явы, крытэрый 2-га ўзроўню), віды жыцця і працоўнай дзейнасці людзей (крытэрый 3-га ўзроўню).

Эканамічная тэматычная група выдзелена на падставе трэцяга асноўнага крытэрыя – віды жыцця і працоўнай дзейнасці чалавецтва. Тэм атычныя групы, вылучаныя па гэтаму крытэрыю, утрымліваюць шмат такой лексікі і тэрміналогіі, якая ўваходзіць у тэматычныя групы і іншых крытэрыяў. Тэматычныя групы падзяляюцца, як і крытэрыі, на падгрупы першага, другога і трэцяга ўзроўняў. Эканамічная тэрміналогія адносіцца да асноўнай тэматычнай групы з усёй лексікі і тэрміналогіі. Яна падзяляецца на шэраг груп ці падгруп другога ўзроўню, кожная з якіх мае ў сваім складзе яшчэ большую колькасць падгруп трэцяга ўзроўню.

Усе групы і падгрупы, як і самі крытэрыі, маюць у сабе вялікую долю ўмоўнасці і прыблізнасці, таму што аб'ектыўная рэчаіснасць настолькі багатая, разнастайная, бясконцая, дыялектычна ўзаемазвязаная, што раскласці яе па палічках, разабраць яе састаўляючыя ні зараз, ні ў будучым немагчыма. Той жа падзел, які робіцца навукай, прадназначаны для таго, каб глыбей і паўней пранікнуць у аб'ектыўную рэчаіснасць для развіцця і ўдасканалення самога чалавецтва і для як мага лепшага і большага ўпісвання ў гэту рэчаіснасць і паляпшэння, удасканалення яе ў сваіх асабістых аб'ектыўных інтарэсах, для развіцця і ўдасканалення самой навукі, для большай яе карыснасці чалавецтву, у тым ліку і філалагічнай навукі.

У навуковых даследаваннях такіх тэрмінолагаў, як П.У. Сцяцко, А.І. Багдзевіч, І.І. Карпуць і некаторых іншых чырвонай ніткай праходзіць спроба даказаць, што беларускай мове не ўласцівы не толькі некаторыя суфіксы, агульныя з рускай, але нават асноўныя віды дзеепрыметнікаў, хаця яны агульныя не толькі для рускай, але нават украінскай і польскай моў. Нягледзячы нават на тое, што наяўнасць дзеепрыметнікаў у

навуковай мове – адна з важнейшых і абавязковых дадатных яе асаблівасцей.

Найбольш аб'ектыўна правільна, глыбока і комплексна агульнатэарэтычныя пытанні тэрміналогіі беларускай мовы даследуюць такія вядучыя вучоныя-тэрмінолагі, як А.І. Падлужны, Л.А. Антанюк, В.П. Красней, Г.А. Цыхун і В.К. Шчэрбін.

Асобныя тэматычныя лексіка-семантычныя групы тэрміналогіі даследуе яшчэ большы атрад тэрмінолагаў маладзейшага пакалення. Транспартная тэрміналогія з'яўляецца аб'ектам даследавання С.М. Аніськовай (воднага), Л.М. Мінаковай (аўтамабільнага), Л.Л. Плыгаўкі (чыгуначнага), батанічная – А.М. Лапкоўскай, грамадска-палітычная, як ужо адзначалася, Н.П. Колас, С.В. Віннік, М.В. Дабрыян і іншых, геалагічная – А.С. Лаўшука, правазнаўчая – У.М. Лазоўскага, анатамічная і медыцынская – А.М. Палуян.

З усіх канкрэтных тэматычных разрадаў тэрміналогіі, як мы бачылі, найбольш пашанцавала эканамічнаму, што з'яўляецца заканамерным. Справа ў тым, што эканоміка – самая галоўная сфера працоўнай дзейнасці сучаснага чалавецтва, у тым ліку і беларускага народа. Таму эканамічная тэрміналогія ўяўляе сабой самы вялікі тэрміналагічны пласт.

Так, глыбока, хоць і не ўсебакова і не канчаткова, даследавалі некаторыя аспекты значнай колькасці старабеларускай эканамічнай тэрміналогіі Н.І. Гілевіч, З.П. Даунене і Т.М. Казачэнка. Варыянтнасць, у тым ліку і словаўтваральную, у тэрміналогіі такіх сфер эканомікі, як сельская гаспадарка, нафта- і газаздабыча, даследуе У.В. Люшцік. Вялікую колькасць мовазнаўчых праблем на матэрыяле тэрміналогіі машына- і аўтамабілебудавання даследавала В.Г. Захарава. Будаўнічая тэрміналогія ў беларускіх гаворках даследуецца У.А. Сарокам, земляробчая тэрміналогія старабеларускай мовы даследавана у двух артыкулах І.В. Шадурскага.

Да гэтага атрада даследчыкаў эканамічнай тэрміналогіі сучаснай беларускай літаратурнай мовы належыць і аўтар дадзенага ўступнага артыкула. Яго цікавіць увесь комплекс удасканалення гэтай тэрміналогіі. Асаблівую ўвагу ён надае такім двум напрамкам гэтага ўдасканалення, як павышэнне эканамічнасці і эканомнасці тэрміналогіі і структурнатэматычная распрацоўка.

### 3. Структура бібліяграфічнага паказальніка і правілы падачы ў ім бібліяграфічных звестак

Дадзены даведнік з'яўляецца ў беларускім мовазнаўстве першым бібліяграфічным тэматычным і вузкагаліновым тэрміналагічным паказнікам. Ён складаецца з наступных раздзелаў: “Спіс умоўных абазначэнняў”, “Апрацаваныя бібліяграфічныя даведнікі і ўказнікі”, “Манаграфіі, зборнікі артыкулаў, тэзісаў, матэрыялаў і часопісы, іх умоўныя

абазначэнні", з якіх узяты назвы канкрэтных публікацый, "Эканамічныя і сумежныя слоўнікі", у якіх пададзена эканамічная або агульнанавуковая тэрміналогія.

Асноўным і самым аб'ёмным раздзелам з'яўляецца пералік у алфавітным парадку канкрэтных артыкулаў і манаграфій па эканамічнай тэрміналогіі і агульных праблемах тэрміназнаўства і тэрмінаграфіі "Артыкулы і манаграфіі".

Усе гэтыя матэрыялы раскласіфікаваны па асноўных тэмах. Для дадатковай зручнасці ў карыстанні дадзеным даведнікам у заключэнне прыведзены тэматычны, імянны, храналагічны, моўны і геаграфічны ўказнікі.

У спісе ўмоўных абазначэнняў прыведзены абрэвіятуры назваў манаграфій, зборнікаў артыкулаў, тэзісаў, матэрыялаў і часопісаў, змешчаных у трэцім раздзеле, з якіх прыводзяцца артыкулы ў асноўным, пятым раздзеле. Гэта зроблена з мэтай, каб не паўтараць па некалькі разоў адну і тую ж назву, паколькі, як правіла, з гэтых зборнікаў у пятым раздзеле прыводзіцца не па аднаму, а па некалькі артыкулаў. Пасля абрэвіятур падаюцца парадкавыя нумары, пад якімі ўказваюцца абазначаемыя імі зборнікі, часопісы трэцяга раздзела. За гэтымі нумарамі дадаюцца лічбы ў дужках, указваючыя парадкавыя нумары артыкулаў з гэтых зборнікаў і часопісаў у пятым раздзеле.

Напрыклад. Абрэвіятура БМММ абазначае зборнік матэрыялаў "Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. - Мінск: Белдзяржуніверсітэт. НАНБ, 1998. -324 с.". Лічба 18 сведчыць, што гэта кніга прыведзена пад васемнаццатым нумарам у трэцім раздзеле. У дужках лічбы 203, 568, 593, 605, 733, 866, 952. 1226, 1280, 1672 сведчаць, што ў пятым раздзеле прыведзены артыкулы: Булыка А. М. Выкарыстанне інтэрнацыянальных прэфіксальных сродкаў у беларускай тэрміналогіі; Казачэнка Т. М. Старажытныя намінацыі сацыяльнай накіраванасці ў адносінах да сучаснага беларускага слоўніка; Кандраценка І. У. Нулявая суфіксацыя ў сістэме сучаснага беларускага словаўтварэння і г.д. Пасля назвы зборніка і абрэвіятуры трэцяга раздзела прыводзяцца тыя ж нумары пазіцый з пятага раздзела, пад якімі ў ім значацца артыкулы з гэтага зборніка.

У чацвёртым і пятым раздзелах назвы слоўнікаў, артыкулаў і манаграфій падаюцца ў адпаведнасці з існуючымі бібліяграфічнымі стандартамі. Бібліяграфія ў пятым раздзеле мае ўжо растлумачаную спецыфіку: калі назва артыкула ўзята са зборніка ці часопіса, зафіксаванага і абазначанага абрэвіятурай у трэцім раздзеле, то пасля нахільных ліній // падаецца не назва зборніка ці часопіса, а яго абрэвіятура. Затым пры неабходнасці друкуюцца год выдання, нумар (выпуск) і старонкі зборніка, на якіх змешчаны названы артыкул.

У шостым раздзеле – "Тэматычным паказніку" – пасля кожнай тэмы

рымскімі лічбамі абазначаны раздзелы даведніка, а арабскімі – нумары адпаведных публікацый 5-га раздзела, у якіх раскрываецца тая ці іншая тэма. Напрыклад, тэма 20 "Беларуская тэрмінаграфія і тэрміналогія" раскрываецца ў наступных пазіцыях другога раздзела "Апрацаваныя бібліяграфічныя даведнікі і ўказнікі": Беларускае мовазнаўства: Бібліяграфічныг паказальнік (1966-1975) / Склад. А. Д. Васілеўская, А. Я. Рамановіч. - Мінск: Навука і тэхніка, 1980. - 352 с.; Беларускае мовазнаўства: Бібліяграфічны паказальнік (1976-1985) / Склад. А. Д. Васілеўская, А. Я. Рамановіч. - Мінск: ЦНБ імя Я.Коласа АН Беларусі, 1993. - 559 с.; Беларускае мовазнаўства: Бібліяграфічны ўказальнік (1825-1965). - Мінск: Навука і тэхніка, 1967. - 416 с.; Беларуская мова, літаратура і мастацтва. 1992: Рэкамендаваны бібліяграфічны паказальнік / Нац. бібліятэка Беларусі: Склад. Н. Д. Кулак, Т. Я. Мамедава. - Мінск, 1993. - 152 с.; Бібліяграфічны ўказальнік літаратуры па беларускаму мовазнаўству. - Мінск: Выд-ва БДУ імя У.І. Леніна, 1960. - 223 с.

Далей гэта тэма раскрываецца ў пазіцыях раздзела III "Манаграфіі, зборнікі артыкулаў, тэзісаў, матэрыялаў і часопісы, іх умоўныя абазначэнні", з якіх узяты назвы канкрэтных публікацый, пад нумарамі 14-19, 21, 26-27 і г.д. значацца: "Беларуская лінгвістыка". Часопіс, які выдаецца ў Мінску. Пасля кожнага артыкула, узятага з гэтага часопіса, і яго абрэвіятуры ўказваецца год і нумар яго выпуска; Беларуская мова. Гомельскі дзяржаўны універсітэт. Штогадовы міжведамасны зборнік. - Мінск: Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, "Універсітэцкае". Пасля кожнага артыкула з гэтага зборніка за адпаведнай абрэвіятурай указваецца назва выдавецтва, год і нумар выпуска; Беларуская мова (Даследаванні па лексікалогіі). - Мінск: Навука і тэхніка, 1965. - 195 с.; Беларуская мова: Міжведамасны зборнік / Гал. рэд. У.В.Анічэнка. - Вып. 22. - Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1992. - 232 с. і г.д.

Лічбы IV: 5-11, 20-21, 28-34 і г.д. абазначаюць, што дадзеная тэма раскрываецца і ў IV раздзеле "Эканамічныя і сумежныя слоўнікі" ў тлумачальных і перакладных слоўніках на беларускай мове або з беларускамоўным рэестрам, ці тэрміналагічных выпусках і зборніках, названых тут пад пералічанымі арабскімі нумарамі: Беларуская навуковая тэрміналогія. - Вып. 10. Тэрміналогія права. - Мінск, 1926.; Гасиева М. М., Молочко Н. В. Словарь-минимум экономических терминов: Русско-белорусско-англо-французско-арабский: В 2-х частях / Белорусский государственный экономический университет; Ред. Р. В. Михновец. - Минск: БГЭУ, 1995. - Ч.1. А-К. - 88 с.; Дубовик А. Е. Англо-русско-белорусский словарь менеджера. - Минск: Вышэйшая школа, 1996. - 318 с. і г.д.

Наступная рымская лічба V і арабскія 13, 18, 28, 37, 52-68, 72-78, 98-105, 109-110 і г.д. паказваюць што ў пятым, асноўным раздзеле даведніка "Артыкулы і манаграфіі" гэта тэма раскрываецца ў наступных артыкулах: Аксамітаў А. С. Навуковая тэрміналогія: праблемы развіцця,

упарадкавання, функцыянавання..., Акулаў І. М. Іншамоўныя словаўтваральныя фарманты ў беларускай мове; Акулов И. М., Погудина Г. М. Калькирование иноязычных социально-политических терминов русским и белорусским языками; Алёхіна Т. Ключавыя тэрміны права ў прадмовах Льва Сапегі да Статута Вялікага княства літоўскага 1588 г.; Аніськова С. М. Асноўныя тыпы намінацый рэалій воднага транспарту ў беларускай мове і г.д.

У імянным указніку прыведзены ў алфавітным парадку ўсе без выключэння прозвішчы і ініцыялы, якія сустракаюцца ва ўсім даведніку. Пасля ініцыялаў у кожным выпадку ўказваецца рымскай лічбай, у якім раздзеле зборніка выкарыстана прозвішча таго ці іншага даследчыка, пісьменніка і тэрмінатворцы, а арабскімі – у якіх пазіцыях па парадку гэтага раздзела: Алексеева П.Э. II. 10. У II раздзеле "Апрацаваныя бібліяграфічныя даведнікі і ўказнікі" пад дзесятым нумарам названы бібліяграфічны даведнік "Библиография по калмыцкому языкознанию /Сост.: П. Э. Алексеева, Е. Н. Жемчугова. - Элиста: Калмыцкое книжное издательство, 1984. - 120 с.; Дешериев Ю. Д. **III**, 52; **V**: 463-464. У трэцім раздзеле "Манаграфіі, зборнікі артыкулаў, тэзісаў, матэрыялаў і часопісы..." пад 52-м нумарам змешчана выданне, адным з адказных рэдактараў якога быў Ю. Д. Дзешарыеў: Вопросы терминологии: Материалы Всесоюзного терминологического совещания /Отв. ред.: Ю. Д. Дешериев и др. - М.: Издательство АН СССР, 1961. - 231 с. У пятым раздзеле пад нумарамі 463-464 змешчаны наступныя артыкулы: Дешериев Ю. Д. Научно-техническая революция и проблемы терминологии // Социолингвистические проблемы развивающихся стран. - М., 1975. - С.259-265; Дешериев Ю. Д. 0б образовании общего терминологического фонда в языках народов СССР // Слово і труд. - Київ, 1976. - С.145-153 і г.д.

Станкевіч А. А. **IV**: 93; **V**: 1401-1408. Навуковыя працы гэтай даследчыцы размешчаны: у чацвёртым раздзеле "Эканамічныя і сумежныя слоўнікі" пад нумарам 93: "Справаводства на беларускай мове / Беларускае агенцтва навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі, Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны: Аўт.: В. А. Гуліцкая, Д. Д. Паўлавец, А. А. Станкевіч. - Гомель, 1992. - 50 с.; у пятым раздзеле пад нумарамі 1401-1408: Станкевіч А. А. Будаўнічыя тэрміны іншамоўнага паходжання ў беларускіх гаворках...; Станкевіч А. А. Дэтэрміналагізацыя тэрмінаў іншамоўнага паходжання ў сучаснай беларускай мове...; Станкевіч А. А. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках... і г. д.

Прозвішчы ў імянным паказніку падаюцца на мовах публікацыі твораў (рускай, украінскай або беларускай). Выдзеленыя тлустым шрыфтам нумары ў «Тэматычным паказніку» абазначаюць пазіцыі, пад якімі змешчаны артыкулы, манаграфіі, зборнікі, слоўнікі, даследуючыя або прадстаўляючыя беларускую навуковую тэрміналогію.

